КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## За камуналку плацяжы няхай уносяць і бамжы

Сёлета цяжкім грузам леглі на плечы жыхароў гарадскіх кватэр плацяжы за камунальныя паслугі…

Хтось жыве, як кажуць, будзь здароў!
А ў кагось – і хлеба ні кавалка…
Але ўсіх агулам жыхароў
Падкасіла сёння камуналка.
Пуста ў кашальках пасля зімы…
Тым не меней наш чыноўнік хціўы
Здзекліва даказвае, што мы
“Не ў аб’ёме поўным” заплацілі.
Вось што я на гэты конт скажу:
Пэўна, прынясуць у хуткім часе
За цяпло рахунак і бамжу,
Што зіму правёў на цеплатрасе…

## Дзялок ад спорту прадаўся чорту

Дырэктар Палаца спорту Сяргей Прановіч браў хабар ад арандатараў памяшканняў. 1200 долараў ён запатрабаваў нават у манашак, якія хацелі правесці ў палацы рэлігійную выставу.

Дырэктара Палаца спорту
Узяў за жабры пракурор.
Цяпер папоўніць ён кагорту
Тых, хто ў дзяржавы нешта спёр.
Бязбожна браў дырэктар хабар,
Усім умову ставіў ён:
– Дасі на лапу – ты мне сябар,
А не дасі, дык выйдзі вон!
І нават бедныя манашкі
Пачулі тых жа слоў набор…
Нясуць манашкі
Крыж свой цяжкі
І Богу моляцца на змор.
Ім і не сніліся даляры,
Што вымагае прайдзісвет.
(Ён не баіцца Божай кары,
Яго ікона – партманет.)
Манашкі просяць прайдзісвета,
Што грошы шуфлямі грабе:
– Зрабі паслугу! Мы за гэта
Маліцца будзем за цябе,
Прасіць табе здароўя ў Бога…
Зірнуў пагардліва дзялок
І перабіў манашак строга:
– Ну, годзе! Не дурыце клёк!
Малітвамі не будзеш сытым –
Так мудра кажа наш народ.
Пытанне будзе ў нас закрытым,
Ды толькі грошы – наперад.
І вось нарэшце, дзякуй Богу,
Яго схапілі за руку.
Збірацца прыйдзецца ў дарогу
К астрогу
Хціваму дзялку…

* * *

Напэўна ён, дзялок ад спорту,
Рабіць іначай і не мог,
Бо ўжо даўно прадаўся чорту.
Але галоўны ўсё-ткі – Бог.

ОБИДА

# Почему я не встретился с братом

Недавно польские родственники пригласили меня и жену (нам по 77 лет) в гости. Мы согласились и пошли за визой. Ранее все было просто и легко, но сегодня натолкнулись на целый ряд препятствий. Их начало – составление и регистрация довольно сложной электронной анкеты. Время для этого ограничено, то есть надо уложиться в 30 минут. Поскольку по данному вопросу Консульский отдел на ул.Кропоткина в Минске никакой помощи не оказывает, то рядом обосновался индивидуальный предприниматель-инвалид, который за довольно приличное вознаграждение выполняет такую работу.

Следующая неприятность – наши белорусские паспорта оказались непригодными, хотя срок их действия истекает в 2040 году. Оказывается, кто-то в Польше или ЕС ввел требование, чтобы паспорт был не старше 10 лет. Так как наши паспорта выданы в 1999-м и 2007 годах, то мы занялись их обменом. Не думайте, что это делается быстро, легко и дешево. Во-первых, нужно сфотографироваться. Во-вторых, за каждый паспорт надо уплатить госпошлину в размере 24,5 рубля и ждать месяц до получения. Если кто-то желает получить быстрее, то госпошлина значительно подскакивает. Подумалось: когда же власти перестанут душить наших доблестных пенсионеров?

В общем, наша поездка в Польшу, приуроченная ко дню рождения брата, сорвалась. Если же нам когда-нибудь дадут визу и мы все же сумеем посетить родню за границей, то я обязательно напишу об этом в любимую газету «Народная Воля».

А вообще, никак не могу понять, почему наши страны-соседи не хотят договориться о безвизовом режиме. Это же выгодно в экономическом и культурном плане для обеих сторон. Не надо бояться, что мы снова заразим поляков чумой коммунизма, а они нас – хозяйским отношением к работе. Уверен, что одна из самых быстро растущих экономик Европы будет процветать и далее, а Беларусь, Венесуэла и Куба продолжат строительство утопического социализма.

**Иван Иванович КУЛИК, пенсионер.**

ЗВАРОТ

# Хто дэнацыяналізуе беларусаў?

Я хачу звярнуцца праз газету “Народная Воля” да педагогаў. І ў першую чаргу да тых, хто працуе ў вышэйшых навучальных установах і рыхтуе армію настаўнікаў і выхавацеляў.

Спадарства, праўдзівыя вынікі вашай дзейнасці выказала метадыст Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Ганна ДАБРЫНЕЎСКАЯ: “…нягледзячы на каласальныя намаганні, затраты, інавацыі, рэкамендацыі і пастановы, дасягненні навукі і наяўнасць эфектыўных адукацыйных практык, імкненні і дарослых, і дзяцей да высокай якасці адукацыі, высокага ўзроўню сучаснай падрыхтоўкі моладзі да прафесійнай дзейнасці, **прарыву ў адукацыі ўсё ж такі няма**. **А колькасць праблем не змяншаецца, прычым у некаторых сем’ях і школах па пэўных напрамках па меры сталення дзяцей нарастае**”. https://nastgaz.by/navuchayuchy-batskou-my-vuchymsya-sami/

Паспрабуем прэпарыраваць і параўнаць з рэаліямі гэта, з аднаго боку, праўдзівае, а з другога – супярэчнае выказванне. Калі гаварыць пра каласальныя намаганні, затраты, то гэта сапраўды так. Існуюць акадэміі, універсітэты, інстытуты, вертыкаль упраўленняў, міністэрства, мноства чыноўнікаў – іх намаганні, вядома ж, патрабуюць велізарных затрат.

Інавацыі – яны, магчыма, ёсць, але лічыць іх карыснымі нельга ў сувязі з адмоўнымі вынікамі. Рэкамендацыі і пастановы – недахопу ў іх няма, тысячы тон паперы расходуецца штогод, а колькі марнуецца рабочага часу!

Дасягненні навукі – магчыма, у свеце яны ёсць, але вось да нашай адукацыі яны, здаецца, не даходзяць.

Наяўнасць эфектыўных адукацыйных практык – гэта сцвярджэнне, на мой погляд, наогул не вытрымлівае крытыкі, таму што вынікі плачэўныя.

Не адпавядае рэальным сучасным патрабаванням узровень сучаснай падрыхтоўкі моладзі да прафесійнай дзейнасці.

І што маем у канчатковым выніку? **Прарыву ў адукацыі сапраўды няма, колькасць праблем не змяншаецца, а нават павялічваецца.**

Вы, педагогі і псіхолагі, ва ўсіх сваіх методыках сцвярджаеце, што ў сваёй працы абапіраецеся на сучасныя навуковыя дасягненні і метады. Давайце вызначымся больш канкрэтна. Вам вядома, што ***“неад’емнай часткай любой навукі з’яўляецца патрабаванне аб’ектыўнасці, якая выключае суб’ектыўнае тлумачэнне вынікаў. Не павінны прымацца на веру якія-небудзь сцвярджэнні, нават калі яны належаць аўтарытэтным вучоным. Для забеспячэння незалежнай праверкі праводзіцца дакументаванне назіранняў, забяспечваецца даступнасць для іншых навукоўцаў усіх дадзеных, методык і вынікаў даследаванняў. Гэта дазваляе не толькі атрымаць дадатковае пацвярджэнне шляхам адэкватнага паўтору эксперыментаў, але і крытычнай ацэнкі ступені адэкватнасці (валіднасці) эксперыментаў і вынікаў у адносінах да тэорыі, якая правяраецца”*** (Wikipedia).

У сувязі з тым, што вы ўпарта працягваеце асіміляцыю беларусаў і з’яўляецеся адным з асноўных інструментаў гэтага працэсу, узнікаюць наступныя пытанні. На якія навуковыя дадзеныя вы абапіраецеся, адмаўляючы эвалюцыю разумовых здольнасцяў (станоўчая эвалюцыя разумовых здольнасцяў прадугледжвае культурную пераемнасць пакаленняў)? Вы сцвярджаеце, што калі беларускае дзіця авалодае першапачаткова “русским языком”, то ён будзе для гэтага дзіцяці родным. А як жа быць з адметнасцю марфалогіі структур мазгоў, напрацаванай сотнямі пакаленняў продкаў праз нашу мову і нашу культуру?

Вы будзеце сцвярджаць, што “русский язык” эфектыўна кладзецца на гэтую структуру, што гэта не ўплывае на разумовыя здольнасці. Хто ставіў такія эксперыменты, хто праводзіў такія даследаванні? Дзе вынікі?

Прыняўшы на веру навукова не абгрунтаваныя сцвярджэнні расійскіх “вучоных”, вы парушылі прыродную экалогію разумовай прасторы беларусаў. Эвалюцыя разумовых здольнасцяў чалавека (як і ў цэлым эвалюцыя) мае два накірункі: станоўчы і адмоўны. Асіміляцыя, якая падтрымліваецца вашай дзейнасцю, паставіла беларусаў на адмоўны эвалюцыйны шлях.

На вас, як і на армію чыноўнікаў і рознага кшталту “ідэолагаў”, якія кантралююць вашу дзейнасць, таксама кладзецца адказнасць за разбуральныя працэсы нацыянальнай беларускай грамады і дзяржавы.

Гэта праз вас ідзе галоўны паток чужароднай патагеннай інфекцыі мазгоў беларусаў (што такое мемы, меметыка – вам вядома). Гэта вашымі псеўданавуковымі сцвярджэннямі і палажэннямі ўзброена чыноўніцкая вертыкаль, якая стварае кропкавыя рэзервацыі для беларускіх сем’яў – адзін дзіцячы садок на раён, адна беларускамоўная школа (ці нават клас) на горад і г.д.

Што рабіць? Вы, педагогі, лічыце сябе разумнымі людзьмі, удзельнічаеце ў міжнародных канферэнцыях, семінарах, запрашаеце да сябе замежных навукоўцаў, праз інтэрнэт атрымліваеце markрознабаковую інфармацыю. І можаце адказ знайсці самі. Ды ён ляжыць на паверхні. Дастаткова паглядзець на Фінляндыю, там таксама дзве дзяржаўныя мовы, але дзетак у фінскіх сем’ях выхоўваюць па-фінску, у шведскіх сем’ях па-шведску. Альбо возьмем Швейцарыю: выхаванне ў нямецкіх сем’ях па-нямецку, у італьянскіх – па-італьянску, у французскіх – па-французску. Прыклады можна працягваць, але выснова адна: там, дзе парушаецца прыродная экалогія моўнай культуры, відавочны працэсы разумовай дэградацыі. На жаль, гэта тычыцца і Беларусі. І вам, педагогі, не сорамна?

**Сяргей ПАПКОЎ,**
**намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ.**

ПРАТЭСТ

# Вярніце возера народу!

Страшэнную трагедыю перажылі ў гады Вялікай Айчыннай вайны вёскі Конахаўка і Карпачы Клімавіцкага раёна – іх напаткаў лёс Хатыні. А колькі мясцовых мужчын не вярнуліся з розных франтоў!

Мы, дзеці вайны, спадзяваліся на лепшае жыццё ў старасці. Але і цяпер, калі многім з нас ідзе восьмы, дзявяты дзясятак гадоў, мы не адчуваем ні высокага дабрабыту, ні душэўнага спакою. Міжволі ўзнікае пытанне: дзеля чаго загінулі нашы бацькі? Каб мы, іх дзеці, на схіле жыцця не мелі магчымасці падысці да мясцовага возера, закінуць вуду і палавіць рыбку?

Рашэннем райвыканкама возера здадзена ў арэнду на 20 гадоў жыхару Расійскай Федэрацыі. Заўважце, нават насельніку не сваёй, а чужой краіны! І сёння мы, мясцовыя жыхары, пазбаўлены магчымасці карыстацца народным багаццем. Нават з берага не можам закінуць у ваду вудачку, каб злавіць парачку рыбёшак.

Раённыя чыноўнікі заплюшчваюць вочы на беззаконне, якое чыніць так званы арандатар. Каб людзі не змаглі пакарыстацца вудачкай, ён тыя дрэвы, што раслі па беразе, паваліў у ваду. Возера каля берага пачынае забалочвацца, а з інспекцыі жывёльнага і расліннага свету ідзе адказ, што дрэвы павалены для стварэння штучнага нерасцілішча прудовай рыбы. Што за глупства?! Па перыметры возера – зараснікі чароту, вось што спрыяе нерасту рыбы, а не дрэвы, паваленыя ў возера.

Няўжо на маё пісьмо не зверне ўвагу кіраўніцтва Магілёўскага аблвыканкама і не будуць адноўлены нашы правы на карыстанне мясцовым возерам? Колькі можна клімавіцкім чыноўнікам здзекавацца з жыхароў вёсак Конахаўка і Карпачы?

**Міхаіл Рыгоравіч БУЛАХАЎ.**
*Клімавіцкі раён.*

ПАЗІЦЫЯ

# Я – за адзіны правапіс беларускай літаратурнай мовы

У адным з нумароў “Народнай Волі” прачытала зварот Валянціны Раманцэвіч да ўдзельнікаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі па беларускай мове. Падтрымліваю яе: павінен быць адзіны правапіс сучаснай беларускай літаратурнай мовы, ні ў якім разе і ні пры якіх абставінах нельга парушаць Закон Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 года.

Прапанова В.Раманцэвіч зыходзіць з многіх жыццёвых сітуацый. Дапусцім, чалавек самастойна ўзяўся вывучаць беларускую мову, чытае ў падручніках і слоўніках адно, а ў рэальным жыцці даводзіцца чуць даволі часта зусім іншыя варыяцыі ў вымаўленні і напісанні тых ці іншых слоў. Як, скажыце, быць “навічку” ў гэтай плыні варыянтнасцяў?!

Іншым разам студэнты падыходзяць да мяне з просьбай патлумачыць, чаму імя Сына Божага ў праваслаўных і католікаў вымаўляецца і пішацца па-рознаму: Ісус-Езус-Ісус. Можа быць, мяркуюць яны, існуе спецыяльная тэрміналогія пэўнага веравызнання. Тлумачу, што акрамя адзіных правілаў правапісу і вымаўлення сучаснай беларускай літаратурнай мовы ніякіх “афіцыйных адхіленняў” у бок той ці іншай канфесіі ў нашай краіне не замацавана.

Згаджаюся з В.Раманцэвіч, што неабходна тэрмінова распрацаваць патрабаванні да адзінага канфесійнага стылю.

Магчыма, як піша аўтар, наспела неабходнасць стварыць незалежную камісію, праўда, увесці туды не толькі вучоных-мовазнаўцаў, але і прадстаўнікоў праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Беларусі. Спадзяёмся, што вынік працы прадстаўнічага органа дазволіць зняць адразу многія пытанні не толькі канфесійнага плана, але і пасадзейнічае ўдасканаленню пэўных пытанняў тэрміналагічнай лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

**Таццяна СМОЛЬСКАЯ, старшы выкладчык кафедры гісторыі беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ.**

ПАМЯЦЬ

# Мулявін і «Крыж»

Прачытаў я ў “Народнай Волі” ўспаміны Барыса Крэпака пра Уладзіміра Мулявіна і ягоных “Песняроў”, і ў маёй памяці ажылі падзеі 40-гадовай даўніны. Па волі лёсу я стаў сведкам жыццёвых прыгод гэтага таленавітага чалавека. Можна сказаць, нейкія містычныя абставіны раз-пораз узнікалі на ягоным шляху.

Тое, пра што я хачу расказаць, адбылося за тры-чатыры месяцы да таго, як “Песняры” сталі лаўрэатамі прэміі Ленінскага камсамола (1977 г.). Як мне цяпер здаецца, менавіта тады прагучаў першы містычны сігнал-папярэджанне Уладзіміру перад фатальнай катастрофай 26 студзеня 2003 года.

…Выклікаюць мяне ў парткам мотавелазавода, дзе я працаваў канструктарам у бюро спартыўных матацыклаў, і прапануюць стварыць часовую рабочую групу для канструявання “сцэнічнай надбудовы” для “Песняроў” з назвай “Крыж” (ідэя і назва – самога Мулявіна). Я не ведаю, хто звязваўся з кіраўніцтвам завода, на якіх умовах, чаму не было афіцыйнага тэхнічнага задання, без чаго ніякія канструктарскія праекты не робяцца, і чаму выбар паў на мяне. Усё было неяк як бы паўлегальна, “па партыйнай лініі”. Я сам, дарэчы сказаць, не быў членам партыі. Ад асноўнай работы нас ніхто не абяцаў вызваліць. Практычна мы павінны былі працаваць звышурочна, не ведаючы, на якіх умовах усё гэта будзе адбывацца.

На першую сустрэчу з эскізам сцэны, які ўяўляў сабой склеены з лісткоў школьнага сшытка аб’ёмны макет у выглядзе крыжа (тое, што называюць аксанаметрычнай выявай), прыйшлі тры прадстаўнікі з філармоніі. Пра памеры і матэрыял ніхто нічога не сказаў канкрэтнага: будзем узгадняць, калі прыйдзе сам Мулявін. Было відаць, што макет ужо пахадзіў па кабінетах: грані былі месцамі зашмальцаваныя, там-сям расклееныя і злёгку пакамечаныя. Сярод прадстаўнікоў, як мне запомнілася, быў адміністратар-распарадчык ансамбля Леанід Знак.

Час ішоў. Прыходзіў нехта яшчэ раз, прасіў пачакаць: Мулявін восьвось з’явіцца. У нас было адчуванне, што нехта там, зверху, не вельмі стараецца, каб усё атрымалася. Рабочая група – Валодзя Забаўскі і я – пачалі



адначасова займацца і праектаваннем, і канструктарскай працай. Валодзя, цяпер ужо нябожчык, працаздольны, як мурашка, быў бліскучым канструктарам. Супрацоўнікі цэха малых серый, дзе мы размясціліся, і не толькі яны, зрабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб дапамагчы нам. Энтузіязм быў неверагодны. Магія павагі і любові да “Песняроў” рабіла сваю справу. Аднекуль браліся метал, трубы, нехта дастаўваў дзесьці моцную фанеру, пластык, шрубы, матэрыял для грунтоўкі асновы…

І вось сцэна была амаль гатова. Адпавядала задуме Мулявіна, каб называцца “Крыж”. У цэнтры сцэны было квадратнае ўзвышэнне, як бы цэнтр крыжа, на якім маглі змясціцца да трох чалавек. Утульна там мог бы стаяць, напрыклад, адзін Мулявін. Ад гэтага цэнтра пад невялікім вуглом адыходзілі ў чатыры бакі “рукі” крыжа, метры на чатыры кожная. Гэта быў як бы шкілет. Астатняя справа – для мастака сцэны.

Нарэшце дамовіліся пра дакладную дату і час, калі павінен прыйсці сам Уладзімір Мулявін. Але ён не з’явіўся. У прызначаны час прыйшоў чалавек з адміністрацыі ансамбля і агаломшыў нас паведамленнем: па дарозе ў Гомель на канцэрт “Песняроў” пад Жлобінам Уладзімір трапіў у аўтамабільную аварыю. Запомнілася мне даслоўна скрушная заўвага хлопца, што прынёс нам трагічную вестку: ”І навошта такім рэзка-эмацыйным людзям садзіцца за руль?!” Вестка пра няшчасны выпадак згуртавала нас, і мы, прыступіўшы зноў да працы, хуценька дарабілі ўсё, што палічылі недаробленым. Наступіла як бы бясчассе. Мы не ведалі, што будзе далей.

Аднойчы я прыйшоў у цэх і не знайшоў там наш “Крыж”. Не ведаю, хто аддаў каманду, хто забіраў наша самадзейнае дзіця, дзе яно знайшло свой прытулак… Пазней я дачуўся, што Уладзімір Мулявін хацеў стварыць нешта накшталт “Тэатра беларускай песні”, народнай і эстраднай, для працы з прафесійнымі і маладымі выканаўцамі. Ён доўгі час шукаў памяшканне, не маючы належнай падтрымкі з пэўных адказных інстанцый. І ў той час, калі мы на заводзе чакалі з ім сустрэчы, ён усё грукаўся ў дзяржаўныя кабінеты, шукаў сталага прытулку для свайго калектыву і ўжо спяшаўся-думаў пра сцэну.

Наша сустрэча з Уладзімірам Мулявіным усё ж такі адбылася, але не ў нас на заводзе, а ў памяшканні філармоніі. Дакладна не памятаю, але, здаецца, праектную працу аплаціла філармонія, а выдаткі на канструкцыю завод узяў на сябе. Ужо постфактум для афармлення дамовы Уладзіміру Забаўскаму і мне як галоўным выканаўцам прыйшлося ісці да заказчыка. Уваходзячы праз службовы ўваход у філармонію, на дошцы аб’яў мы ўбачылі сціплы плакат: “Віншуем ВІА “ПЕСНЯРЫ” з атрыманнем прэміі Ленінскага камсамола”. Кажу Уладзіміру Забаўскаму: “Лаўрэаты не могуць не быць шчодрымі”.

На другім паверсе знаходзім дзверы, на якіх фламастарам размашыста-коса напісана: “ВІА “ПЕСНЯРЫ”. Заходзім, вітаемся, называем сябе. У пакоі на 15–18 квадратных метраў бачым 5–6 чалавек. Уся прастора запоўнена пюпітрамі і музычнымі інструментамі. Тут жа стаіць старэнькі шчарбаты калаўрот, побач на піяніна ляжыць нешта падобнае на старасвецкія гуслі. Усё выглядае як музейныя экспанаты. Мулявін стаіць каля пісьмовага стала, побач з ім, спінай да піяніна, Ігар Лучанок. (Пасля нашага з’яўлення ён ветліва незаўважна знік.) На маю заўвагу, што тут вельмі цесна, Уладзімір адказаў: “Другія ансамблі і гэтага не маюць”. (Падумалася пра сціпласць галоўнага Песняра.)

Загаварылі пра “Крыж”, сустрэчу на заводзе, што не адбылася, і пра аварыю пад Жлобінам. Дзякуй Богу, сказаў Мулявін, сам цэлы. Рамонт “Жыгулёў” каштаваў адзін шэфскі канцэрт для “Мінск-Лада”-цэнтра. Колер машыны стаў іншы.

З гутаркі пра афармленне дамовы паміж заводам і філармоніяй на канструктарскую дакументацыю высветлілася, што ў ансамбля грошай няма. Усе прэміяльныя “камсамольскія” грошы пералічылі ў дзіцячы дом, на бягучым рахунку для канцэртнага забеспячэння сродкаў таксама няма. Вось, паскардзіўся Мулявін, не ведаем, як знайсці камандзіровачныя сродкі для паездкі ў Маскву на запіс песні “Ай, дзяўчыначка, куды йдзеш?”. Маглі ж гэта зрабіць, калі былі ў Маскве. Такая неразбярыха… Валодзя паказаў ведамасць – плата за запіс у маскоўскай студыі: Мулявін – 25 руб., побач з ім – 20, 15, 15, 15… Пасля гэтага стала неяк няёмка гаварыць аб грашовых справах. Пачалі развітвацца. Мулявін сказаў: “Нешта прыдумаем”. Прыдумаў: сума, якую мы атрымалі, была большая, чым мулявінскі заробак на студыі гуказапісу ў Маскве.

Сёння я разумею, што падчас нашай размовы ў філармоніі Мулявін ужо разумеў, што ніякага “Тэатра беларускай песні” не будзе, што на ягонай ідэі са сцэнай “Крыж” ва ўласным памяшканні ўжо сапраўды пастаўлены крыж. Быў ён тады ў стане лёгкай меланхоліі, не дэпрэсіі. Мне было шкада, што наша праца сталася марнай. Нават атрыманы ганарар не змыў пачуцця горычы. Я разумеў, што Уладзімір Мулявін тут ні пры чым. Сістэма мела больш пільныя патрэбы.

Сёння няма Мулявіна, няма “Тэатра беларускай песні”, няма той часткі сцэны, якая мусіла мець найменне “Крыж”. Думаю: як бы ён адчуваў сябе, стоячы на крыжы? Была ў гэтай ідэі нейкая нядобрая містыка…

Ён нёс свой крыж, ахвярны крыж новага агучвання традыцыйнага беларускага меласу. Ён – чалавек, які прыйшоў да нас з няблізкага свету, скіраваны лёсам да песенных скарбаў нашага краю. Дзякуй табе, Пясняр!

**Барыс ФЕРДМАН,**
**ветэран Мінскага мотавелазавода з 52-гадовым стажам.**

СКАНДАЛ

# Прощальная гастроль?



Serhiy Kharchenko (AFP)

Третьи сутки, как взят под стражу пойманный на горячем весьма раскрученный медийный персонаж Владимир Рубан, длительное время по согласованию с украинскими властями ведший переговоры с ДНР и ЛНР об обмене военнопленными. «Торговец» пленными и самозваный генерал, как утверждает молва, с достаточно серьезными связями, которые ведут чуть ли не к самому Путину. 8 марта Рубан лично в качестве водителя перевозит целый арсенал оружия. Руководитель Службы безопасности Украины Василий Грицак озвучил убедительную историю, подкрепленную видео- и аудиосопровождением: Рубан вез оружие, при помощи которого должны были совершить грандиозный террористический акт в центре Киева, а возможно, и совершить покушение на президента Порошенко. Но при этом от ответа на большинство резонных вопросов Грицак уклонился, ссылаясь на тайну следствия и намекая, что продолжение следует.

Действительно, после брифинга Василия Сергеевича вопросов осталось больше, чем ответов. Но на них рано или поздно придется ответить, иначе все превратится в фарс, дискредитирующий государственные институты страны, в которой пятый год идет необъявленная война с Россией.

Напомню: Владимира Рубана чуть более года назад, 27 февраля 2017 года, уже задерживали и тщательно досматривали на КПВВ «Марьинка». После этого пресс-секретарь СБУ Елена Гитлянская заявила: *«СБУ отменила разрешение о пересечении линии соприкосновения гражданину Украины Рубану В.В.»*. Если он был лишен разрешения на пересечение линии соприкосновения, **то каким образом он 8 марта въехал на оккупированную территорию? Кто наделил его этим правом и какую цель при этом ставил?**

Весьма странно выглядит и тот факт, что гражданин Рубан, находящийся под пристальным наблюдением спецслужб, уверенно садится за руль машины, нашпигованной целым арсеналом, и едет через охраняемый блокпост. Чтобы это проделать, надо иметь железные нервы или быть очень уверенным в супернадежности своей «крыши». **Кто эта «крыша», которая в случае чего должна была отмазать его от ответственности за провоз такого количества оружия и боеприпасов?**

С учетом того, что, по версии спецслужб, это не первая партия такого большого количества оружия, привезенная с оккупированной территории Рубаном, и того, что обвинение предполагает широкомасштабный теракт с применением этого арсенала на территории Киева, возникает еще ряд вопросов. Наличие такого количества оружия предполагает значительную группу исполнителей для осуществления этой небольшой военной операции с хорошо продуманной логистикой, приблизительно две-три сотни подготовленных бойцов. Ведь не будет же сам Рубан бегать от пулемета к миномету. И вряд ли кто-то всерьез поверит, что конечным получателем арсенала окажутся сторонники Саакашвили. **Кто же эти хорошо подготовленные спецы?**

Ведь их наличие достаточно серьезная угроза безопасности как власти, так и простых граждан. И, по сути, мы уже должны были стать свидетелями широкомасштабной операции спецслужб с задействованием большого количества спецподразделений, с подключением средств доставки арестантов по типу памятных всем масштабных арестов януковичских налоговиков. **Почему задержан лишь один водитель? Будут ли разоблачены и арестованы все, кто причастен к операции? Насколько убедительным будет уровень квалификации предполагаемых исполнителей подготавливаемого теракта?**

Нельзя же все повесить на одного псевдогенерала. **Кто разработчик, кто этот злой гений, который способен просчитать, организовать и провести такую военную операцию в центре Киева?** Многие подозревают, что за предотвращенным террористическим актом может стоять главный «пророссийский» политик Украины, кум Владимира Путина Виктор Медведчук.

Если после такого насыщенного фактами брифинга главы СБУ последуют столь же **убедительные действия,** снимающие все неудобные вопросы, то это будет иметь эффект разорвавшейся информационной бомбы и позволит выйти на новый уровень доверия к правоохранительным структурам и лично Петру Порошенко. А если все превратится в очередной пшик, чему мы не раз были свидетелями, то это похоронит карьеры многих. Ждем развязки.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

У ДВУХ СКАЗАХ

***

Дональд Трамп абвясціў, з якім галоўным лозунгам пойдзе на чарговыя выбары – "Захаваем Амерыку вялікай!". Ён лічыць, што мінулы лозунг – "Зробім Амерыку вялікай!" – ужо рэалізаваны пасля яго першага абрання.

***

Міністр камерцыі Кітайскай Народнай Рэспублікі Чжун Шань паведаміў, што дэпутатаў Усекітайскага народнага сходу непакоіць магчымасць "гандлёвай вайны" паміж Кітаем і Злучанымі Штатамі Амерыкі. За сорак гадоў кітайска-амерыканскі гандаль узрос у 232 разы, а сума ўзаемных інвестыцый дасягнула 230 мільярдаў долараў ЗША.

***

Германскі часопіс Der Spiegel даведаўся, што невядомыя хакеры скралі з сервера ўрада ФРГ файлы з дакументамі, якія тычацца перамоў Еўрасаюза і Вялікабрытаніі па Brexit, а таксама перамоў з Украінай і Беларуссю. Навошта ім гэта было і што за таямніцы ўтрымлівалі скрадзеныя файлы, не паведамляецца.

***

У Латвіі знайшлі цела раптоўна памерлай кіраўніцы галоўнай падатковай службы краіны спадарыні Ілзе Цыруле. Слядоў гвалту на целе не было.

***

Вялікабрытанія ў сувязі са справай атручанага эмігранта Сяргея Скрыпаля заклікае сваіх саюзнікаў устрымацца ад візітаў афіцыйных асоб у Расію падчас чэмпіянату свету па футболе 2018 года. У друку кажуць, што пакуль да "мяккай формы байкоту" могуць далучыцца Японія, Аўстралія і Польшча.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Радзівілы

Смаргонская мядзведжая акадэмія, дзе вучылі касалапых мішак розным штукарствам. Слуцкая персіярня, дзе залатыя рукі майстроў ткалі з золата і срэбра знакамітыя слуцкія паясы. Налібоцкая шкляная мануфактура і яе больш як 100 відаў высокамастацкіх вырабаў. Радзівілаўская Біблія. Радзівілаўская бібліятэка. Архівы Радзівілаў. Тэатр Радзівілаў…

Усе гэтыя прыкметныя з’явы нашай гісторыі, як і дзясяткі, сотні іншых, звязаны з найбуйнейшым і слаўным магнацкім родам Радзівілаў герба «Трубы». Да сённяшняга дня амаль шэсць стагоддзяў налічвае гісторыя роду. Ім не было роўных у Вялікім Княстве Літоўскім, з імі лічыліся еўрапейскія манархі, быць у сваяцтве з імі хацелі найслынныя еўрапейскія роды. Нават амерыканскі прэзідэнт Джон Кенэдзі меў сваяцкія повязі з Радзівіламі. Дамінік Радзівіл служыў ад’ютантам у Напалеона. Мацей Радзівіл узначальваў пратакольную службу цара Мікалая II. Станіслаў Радзівіл быў ад’ютантам польскага кіраўніка Юзафа Пілсудскага.



Сёння радзівілаўскі Нясвіж – ціхі і разважны гарадок. Аж не верыцца, што зусім нядаўна ён быў беларускім Парыжам, цэнтрам вірлівага культурнага і палітычнага жыцця. Магнатам імпанавала, што пра іх казалі: кароль каралём у Варшаве, а ў Нясвіжы – Радзівіл. Іхняя палітычная ўлада падмацоўвалася ваеннай і эканамічнай магутнасцю, культурнай выкшталцонасцю. Усё адно да аднаго годна клалася ў чароўны куфэрак здабыткаў, дыхтоўна ўпляталася ў агульны сувой знатнасці роду. Радзівілы мелі свае войска. Яны заснавалі ў Слуцку і Нясвіжы кадэцкія карпусы. Ім належалі крэпасці ў Нясвіжы, Біржах, Кейданах, Міры, Любчы і іншых гарадах. Яны адначасова валодалі маёнткамі ў Аўстрыі, Польшчы, Прусіі, Італіі, Францыі, ва Украіне – усяго на землях дзевяці цяперашніх еўрапейскіх дзяржаў.

Што ж да паходжання прозвішча, то адзінага меркавання не існуе. Адны даводзяць, што нехта з іх радзіў Гедыміну, дзе і як заснаваць Вільню, за што і быў уганараваны знакамітым на дзве дзяржавы польскім прозвішчам. Іншыя выводзяць яго з літоўскіх каранёў. Заснавальнікам роду лічыцца сын віленскага кашталяна Осціка Радзівіл Осцікавіч, які жыў у сярэдзіне XV стагоддзя.

У 1512 годзе Ганна з Кішкаў у якасці пасагу прынесла Нясвіж Янушу Радзівілу Барадачу – маршалку літоўскаму. Януш збудаваў тут крэпасць, горад абкружыў земляным валам. Пазней Мікалай Радзівіл Сіротка ўзвёў мураваны замак-палац, а непадалёку ад яго першы на нашай зямлі барочны шэдэўр – езуіцкі касцёл з непаўторнымі размалёўкамі на біблейскія тэмы.

Радзівілам шанцавала на трапныя мянушкі, якія замацаваліся так трывала, што многіх інакш і не называлі, як Мікалай Стары, Юрый Геркулес, Мікалай Руды, Мікалай Чорны, Мікалай Сіротка, Крыштоф Пярун, Міхал Казімір Рыбанька, Пане Каханку…

Сваім набыткам і скарбам князі таксама любілі даваць экзатычныя назвы. Згадайма хоць бы 12 вялікіх і дагледжаных залаў замка: Мармуровая, Залатая, Зорная, Блакітная, Каралеўская з партрэтамі польскіх каралёў, Гетманская з выявамі польскіх і літоўскіх гетманаў, Сенатарская, Пасольская і г.д.

У радзівілаўскім Нясвіжы захоўваліся магутныя гарматы XVI стагоддзя, якія трапілі пазней у многія гарады Еўропы. Гэтыя даўнія помнікі ліцейнага рамяства з адмысловымі ўпрыгожаннямі Радзівілы таксама называлі гучна і мудрагеліста: Сава, Саламандра, Гідра, Кракадзіл, Цэрбер, Цырцэя, Папугай.

Густоўна падабраныя зборы партрэтаў, абразоў, скульптуры, калекцыі саксонскага фарфору, зброі, вырабы мануфактур, палацавыя каміны, размалёўкі, інкруставаная мэбля, скураныя і палатняныя шпалеры, пазалочаны шкляны посуд і шмат што іншае ўпрыгожвала замак, мусіла сведчыць пра магутнасць і значнасць роду. Каля дваццаці тысяч тамоў, у тым ліку старадрукаў і рукапісных кніг, налічвала Нясвіжская бібліятэка. У багацейшым архіве, якім пэўны час апекаваўся знаны літаратар і даследчык Уладзіслаў Сыракомля, захоўваліся каштоўныя дзяржаўныя дакументы з гісторыі Вялікага Княства і Польшчы. Старанні роду не прапалі марна.

У 2005 годзе архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы ўключаны ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Былі Радзівілы і вядомымі мецэнатамі. Магдалена Радзівіл, напрыклад, грашова падтрымлівала выданне паэтычных зборнікаў Максіма Багдановіча і Канстанцыі Буйло.

Радзівілы любілі выдзеліцца сярод роўных, падкрэсліць сваю адметнасць і значнасць. Яны былі ці не першымі ў Вялікім Княстве Літоўскім па сваіх багаццях. Кажуць, нават прадстаўнікі французскай каралеўскай дынастыі Людовікаў пазычалі ў іх грошы. Як сапраўдныя гаспадары дзяржавы, яны мелі загарадную рэзідэнцыю – збудавалі ў Альбе шыкоўны палац, разбілі парк, выкапалі сажалкі і каналы, стварылі тут марскую флатылію, якая дэманстравала гасцям узяцце Гібралтара.

Калі ў 1785 годзе Нясвіж наведаў польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Караль Станіслаў Радзівіл, званы Пане Каханку, сустрэў яго ў старым выцвілым уборы. Здзіўленаму высокаму госцю даходліва патлумачыў: «Лёгка Вашай вялікасці ўбірацца ва ўсё новенькае, калі вы і сам новенькі. А я, каб ушанаваць вас, апрануў свой старэйшы кунтуш, які цэлыя стагоддзі служыў маім продкам!»

А што да легенд, то яны дагэтуль незлічонымі маністамі атуляюць замак. Пра «гарбаты» саркафаг, у якім пахавана князёўна, якая зімовым вечарам уцякла ад нарачонага замежнага прынца да каханага хлопца з просталюдзінаў. У чаканні яго прысела на лаўку і замерзла, не ведаючы, што яе абранніка схапілі княскія слугі. Пра вялізны камень, названы Пярсцёнкам Марысі, і вадаспад «Слёзы Марысі». Легенда таксама звязвае іх з трагічным каханнем людзей, не роўных па багацці. Пра Чорную панну Барбару Радзівіл – польскую каралеву, жонку караля Жыгімонта II Аўгуста…

ТАМ, У ІЗРАІЛІ

# Напярэдадні «вялікага шухера»



У самім Ізраілі амаль ніхто не сумняваецца ў тым, што краіну чакаюць пазачарговыя парламенцкія выбары. Сённяшняя кіруючая кааліцыя вельмі не задаволена тым, як вядзе сябе прэм’ер Біньямін Нетаньяху, які ўжо чацвёрты раз узначальвае ўрад яўрэйскай дзяржавы.

Падстаў для крызісу дзве. Адна – цалкам суб’ектыўная і тычыцца самога Нетаньяху. Яго колішні дарадца Нір Хейфец пагадзіўся даць паказанні супраць былога шэфа пры ўмове, што яму дадуць статус "дзяржаўнага сведкі" – гэта значыць супраць яго не будзе ўзбуджана крымінальная справа. Згодна з паказаннямі Хейфеца, якія ён даў пасля двухтыднёвага арышту, дзеючы прэм’ер – "закладнік" жонкі Сары і сына Яіра, якія наўпрост умешваюцца ў працэс прыняцця палітычных рашэнняў. Так, пад ціскам Сары і Яіра нібыта быў прыняты шэраг рашэнняў, якія ідуць супраць рэкамендацый ізраільскіх спецслужбаў, але ж тычацца менавіта пытанняў іх кампетэнцыі. Яір нібыта ўплываў таксама на кадравыя рашэнні, якія тычыліся грамадскага тэлебачання Ізраіля, эканамічнай палітыкі і г.д. Ізраільская прэса ўжо пачала пісаць пра "хатнюю палітычную кухню" кіраўніка ўрада.

Другая падстава – канфлікт паміж Міністэрствам абароны Ізраіля, якое ўзначальвае вядомы Авігдор Ліберман (былы міністр замежных спраў, а да таго – начальнік канцылярыі Нетаньяху і першы кіраўнік ягонага передвыбарнага штаба) і рэлігійнымі артадоксамі. Артадаксальныя рэлігійныя дзеячы дамагаліся, каб не былі ўведзены ў дзеянне распрацаваныя законы, згодна з якімі ў войска паступалі б таксама выпускнікі рэлігійных навучальных устаноў, але ж Ліберман адстойваў пазіцыю вайскоўцаў. Паводле меркавання міністра, вывучэнне Торы – справа важная, але ж Ізраіль знаходзіцца фактычна ў стане вайны з арабскім светам, таму трымаць зброю ў руках мусяць усе.

У выпадку з вайскоўцамі і артадоксамі кампраміс паспрабавалі знайсці: вылучана прапанова аб увядзенні квот на прызыў у войска выпускнікоў рэлігійных школ і аб паступовай імплементацыі новага закона. Хутчэй за ўсё, гэтая прапанова будзе прынята. Але ж ад яе не залежыць лёс самога ізраільскага прэм’ера. А ў Ізраілі ўжо пачаліся мітынгі супраць "прэм’ера-карупцыянера". На будынку буйнейшага тэатра ГАБІМА пачалі пісаць лозунгі кшталту "Далой Бібі!" (Бібі – памяншальная мянушка Біньяміна Нетаньяху яшчэ з часоў першага яго абрання). Калі дырэктарка тэатра паспрабавала забараніць антыпрэм’ерскія графіці на мурах, суд раптам дазволіў гэта рабіць, што вельмі натхніла апанентаў прэм’ера.

Але ж у самога Нетаньяху застаўся ў руках вельмі моцны фактар уплыву на сітуацыю. Ягоная партыя з’яўляецца буйнейшай у правячай кааліцыі, і калі раптам ён абвесціць аб роспуску парламента, то мае шанц ізноў увайсці ў склад дэпутацкага корпусу, але ж ягоныя апаненты з ліку сяброў сённяшняй кааліцыі – не. У друк трапіла інфармацыя пра тое, што нібыта аднапартыйцам Нетаньяху прапанавалі захаваць сённяшнюю кааліцыю, змяніўшы прэм’ера на менш амбіцыёзную асобу, якая пасля выбараў не прэтэндавала б на кіраўніцтва ўрадам, але ж такі "кампраміс" відавочна немагчымы. Адзінае магчымае выйсце – калі Нетаньяху заменяць Ліберманам, але ж і гэты варыянт нікога не задавальняе, бо палітыка ўрада застанецца нязменнай.

Хто сапраўды радуецца парламенцкаму крызісу – гэта журналісты і блогеры: ім ёсць пра што пісаць і што абмяркоўваць. Астатнія чакаюць, адбудзецца грандыёзны "шухер" ці не. Нічога, Ізраіль вытрымае.

**Фёдар КАНСТАНЦІНАЎ.**

НА СУВЯЗІ – ПЕКІН

# Таварыш Сі будзе кіраваць да смерці?

Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў пагадзіўся з прапановамі правячай Камуністычнай партыі Кітая. У прыватнасці, зняты абмежаванні ў колькасці тэрмінаў заняцця найвышэйшых пасад у краіне. Гэта значыць, што Сі Цзіньпін можа кіраваць Кітаем столькі, колькі пажадае.

Сход таксама пастанавіў уключыць у тэкст Канстытуцыі Кітая "думкі Сі Цзіньпіна", тым самым паставіўшы сына былога рэпрэсіраванага партыйнага апаратчыка на адну прыступку з Вялікім Рулявым Маа Цзэдунам.

"За" прагаласавалі амаль тры тысячы ўдзельнікаў сходу, "супраць" – трое, двое ўстрымаліся.

Журналісты таксама звярнулі ўвагу на тое, што таварыш Сі не назваў на мінулым з’ездзе імя свайго магчымага пераемніка. Гэта супярэчыць традыцыі кітайскай улады і сведчыць пра тое, што Сі Цзіньпін мае намер скарыстацца магчымасцю застацца ва ўладзе трэці і, магчыма, наступныя тэрміны, шлях да якіх зараз яму адчынены.



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Такога прэзідэнта ў Арменіі яшчэ не было

9 красавіка правядзе інаўгурацыю новы прэзідэнт Арменіі. Ім абраны Армен Саркісян, былы амбасадар Арменіі ў Лондане, якога вылучылі на вышэйшую пасаду ў краіне дзве парламенцкія фракцыі. Ён быў безальтэрнатыўным кандыдатам.

Армен Варданавіч Саркісян нарадзіўся ў 1953 годзе ў Ерэване. Гэта першы кіраўнік сучаснай Арменіі, які нарадзіўся на яе тэрыторыі: дагэтуль краіну ўзначальвалі ўраджэнцы Нагорнага Карабаха, а першы прэзідэнт Лявон Тэр-Петрасян нарадзіўся ў Сірыі.

Саркісян спецыяліст па тэарэтычнай фізіцы, астрафізіцы і камп’ютарным мадэляванні: ён скончыў фізічны факультэт і аспірантуру Ерэванскага дзяржаўнага ўніверсітэта, абараніў кандыдацкую



дысертацыю. Пэўны час выкладаў у сваёй alma mater, а пасля – у славутым Кембрыджскім універсітэце ў Вялікабрытаніі. Менавіта таму, хутчэй за ўсё, у 1992 годзе ён быў прызначаны амбасадарам у Аб’яднаным Каралеўстве; пасля працягнуў дыпламатычную працу ў Бельгіі, Ватыкане, Люксембургу.

У 1996–1997 гг. Армен Саркісян працаваў прэм’ер-міністрам Арменіі. Сышоў у адстаўку, як ён сам сцвярджае, па хваробе. Пасля паспяховага лячэння займаўся дабрачыннай дзейнасцю ў Арменіі (быў старшынёй дабрачыннага фонду "Ерэван – любоў мая", сярод сяброў апякунскай рады якога – прынц Уэльскі, старшыня "Брытыш Петролеум", іншыя вядомыя ў свеце асобы) і таксама меў некалькі буйных бізнес-праектаў па-за межамі роднай краіны: яго кампаніі ў Расіі займаюцца энергетыкай, харчовай прамысловасцю, імпартам казахскага газу і г.д.

Новы прэзідэнт Арменіі жанаты, мае двух сыноў, якія скончылі прэстыжныя еўрапейскія ўніверсітэты, і трох унукаў.

Пэўны час Саркісян меў двайное грамадзянства – Арменіі і Вялікабрытаніі, але ж пасля 2011 года з’яўляецца толькі грамадзянінам Арменіі. Ён лічыўся найбольш уплывовым армянінам у Вялікабрытаніі і адным з найбольш уплывовых у свеце.

Народная Воля http://www.nv-online.info
13 САКАВІКА 2018 г.



С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

# Дети на банкете

Есть такая традиция: праздники отмечать застольем и музыкой. У всех народов мира в честь знаменательных событий люди поют, танцуют и… едят. Это – удовольствие, а также древний обычай. А, как писал поэт, "обычай – деспот меж людей", то есть в обозримом близком и далеком будущем  ничего не предвещает изменений. Кроме, естественно, состава артистов, которых будут приглашать на те или иные торжества.

В столице на банкет в честь открытия Дворца художественной гимнастики в качестве красивого фона тоже пригласили музыкантов. Они играли для главных гостей, которыми в этот день были спортсмены. И кто скажет, что наши белорусские гимнастки не заслужили  новый прекрасный дом и этот праздник и фанфары в свою честь? В Беларуси столько на весь мир прославленных имен! Но уязвимость ситуации в том, что музыкантами на банкете были студенты, играющие в молодежном симфоническом оркестре Академии музыки. То есть люди подневольные. Учащиеся. Им сказали – они пошли. Где и перед кем выступать, за них пока решают преподаватели, профессора. Впрочем, и в будущем, если музыканты станут работать в составе большого оркестра (а это один из лучших вариантов профессиональной судьбы, потому что солистами станут вообще редкие единицы), то и тогда им придется подчиняться и главному дирижеру, и директору, и много кому еще. И условия труда будут очень, очень разными. И будет мешать резкий свет, сквозняк из-за кулисы, чужой пюпитр, и, может быть, даже дирижер – оркестранты, знаете ли, не ангелы.

Но взрослые играют за деньги. А учащихся на банкет пригласили поработать за "зачет". Чувствуете разницу? По крайней мере перед концертом речь об оплате не шла. Хотя сейчас дирижер концерта уважаемый Андрей Игоревич Галанов сказал мне, что работа студентов в тот день будет все-таки оплачена. Но это, замечу, не его, дирижера, вопрос, он сам был человеком приглашенным. У студентов академии на данном этапе главный командир – ректор, проректор и так далее. Именно эти люди отвечают за высокий профессиональный вкус, который они привьют или не привьют учащимся. Именно они, взрослые, умные, ответственные, отвечают за моральный облик будущего музыканта. Но, видимо, дистанция между профессорскими установками на занятиях и реальными делами за стенами академии оказалась столь велика, что молодые музыканты обиделись. Даже более, они возмутились, что им, "будущей элите", как часто называют их педагоги, призывая держать во всем высокую планку, пришлось играть Чайковского под стук вилок и запах жареной рыбы. Пусть даже и в новом дворце.

И я не стану возражать: подобный "этикет" откровенно низкопробен.

Да он, этот "этикет", собственно, в таком имперском виде давно нигде не популярен – я имею в виду классических музыкантов. Эстрадные артисты, работники облегченного жанра, они – да: поют и танцуют в любых полевых или ресторанных условиях. Естественно, соглашаются на это добровольно и, знаю, даже гордятся приглашениями, потому что работают за очень высокие гонорары. Но под классическую музыку есть и пить, извините, хрюкать над тарелкой как-то стыдно. Потому что Чайковский – это великое достижение человеческого духа, а банкет – пир для физиологии. Не сходятся они. Протестуют друг против друга. Для праздника живота есть музыка попроще.

Вчера я обсуждала эту ситуацию с маэстро Анисимовым. Александр Михайлович сказал прямо: "Я не стал бы развращать детей подобными вещами. Возможно, ректор Дулова не знала о полном сценарии праздника: под какой ресторанный аккомпанемент придется выступать учащимся". Но, в принципе, играть музыку на торжествах, рассказал дирижер, приходилось и ему, и нашему государственному оркестру. Например, для спонсоров. А как еще оркестранты могут отблагодарить людей, которые помогают, от которых, будем прямо говорить, во многом зависит благополучие коллектива? Но, продолжил далее маэстро, выступления были всегда с одной серьезной оговоркой: сначала серьезный концерт, потом богатый ужин. Это для классического музыканта непреложное правило.

В середине 1990-х, рассказал далее Александр Михайлович, он, будучи главным дирижером Большого театра, был приглашен вместе с лучшими солистами белорусской оперы в Таиланд на торжества по случаю юбилея королевы. В богатом концертном зале королевская семья и ее высокие гости сидели на сцене, а оркестр, вопреки традициям, расположился наоборот – внизу в зале. Таким образом выражалась, если хотите, субординация монархического праздника. Естественно, гости сидели за накрытыми праздничными столами. Но концерт прошел при полной тишине и глубоком внимании к музыке. Кушать подано было потом. И в этом выражался высокий государственный этикет, эталон поведения.

Так поступает монархия. Как говорится, есть чему поучиться и молодой демократии.

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПОГЛЯД

# Чаму варта купіць энцыклапедыю «Янка Купала»?

## Адказ Міхасю Скоблу

Паважаны спадар Міхась! Мяркую, што я магу звярнуцца да Вас менавіта так. Без "Уладзіміравіч" – я ж ведаю Вас даўно, яшчэ як студэнта філфака БДУ. "Паважаны" – бо я сапраўды паважаю Вас, таленавітага паэта, публіцыста і літаратуразнаўца. Каб пераканацца ў Вашых яскравых паэтычных здольнасцях, варта звярнуцца хаця б да аднаго вершаванага зборніка (а іх налічваецца ў Вас ужо з дзясятак). Што да літаратуразнаўства, то проста ўражваюць вынікі Вашай толькі адной тэксталагічнай працы. Па сабе ведаю, які гэта цяжкі і не вельмі ўдзячны абавязак тэкстолага. А Вы ж уклалі 2-томныя Зборы твораў Ларысы Геніюш і Зоські Верас, кнігі ліставання той жа Л.Геніюш, падрыхтавалі аднатомнікі У.Жылкі, Р.Крушыны, А.Салаўя, Р.Барадуліна, А.Сыса і іншыя. Пасля таго як я набыў у свой час выдадзеныя Вамі грунтоўныя анталогіі беларускай паэзіі арыгінальнай ("Краса і сіла", 2003) і перакладной ("Галасы з-за небакраю", 2008), у мяне самі неяк узніклі некалькі прысвечаных Міхасю Скоблу вершаваных радкоў (агучваю іх упершыню):

Адно за *"Красу і сілу"*,
За *"Галасы з-за небакраю"*
Вам у лепшым свеце
Месца падрыхтавана.
І не ў канцы,
Не з краю,
А ў самым сэрцы
Раю!

З цікавасцю ўспрымаю, Міхась, і Вашы асобныя журналісцкія публікацыі, увасобленыя ў персанальнай сторадковай калонцы ў "Народнай Волі" ("Тапанімічны дурдом", "Ордэн Скарыны на экспарт" і іншыя), гутаркі з вядомымі беларускімі пісьменнікамі і вучонымі (А.Каўкам, А.Сідарэвічам, Б.Пятровічам, А.Мінкіным і іншымі). Але вось атрымаў чарговы нумар газеты за 6 сакавіка 2018 года, і адразу балюча ўразіла назва Вашых "100 радкоў" – "**Чаму я не купіў энцыклапедыю "Янка Купала**"?". Кажу "балюча", бо адно загаловак Вашага артыкула можа адпрэчыць ад энцыклапедыі (што яшчэ горш – ад самога Янкі Купалы) асобных яе магчымых чытачоў. Больш таго, спыніўшыся літаральна на *адным* энцыклапедычным артыкуле, толькі "зірнуўшы" (Ваша слова) на яго, Вы закрэслілі, па сутнасці, працу ўсяго аўтарскага калектыву купалазнаўцаў, а таксама намаганні супрацоўнікаў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі" годна адзначыць 135-годдзе нашага Песняра. "Балюча" мне яшчэ па адной прычыне: аўтарам таго злашчаснага артыкула, які Вы несправядліва раскрытыкавалі (пра што пойдзе гутарка далей), з'яўляюся якраз я.

Давайце паглядзім, ці такі ўжо няўдалы мой артыкул, прысвечаны колішняму выданню анталогіі "**А хто там ідзе?" на мовах свету**" (1982), што адбіў Вам ахвоту, як Вы пішаце, купляць на нядаўнім Міжнародным кніжным кірмашы святочна выдадзены, прыгожы том энцыклапедыі "Янка Купала"? Як вядома, лёс той укладзенай мной разам з Я.Рамавоўскай "скандальнай анталогіі" (Ваша вызначэнне), у якой на роўных сышліся 81 пераклад купалаўскага верша на розныя мовы свету, быў своеасаблівы. І стваралася анталогія нялёгка, і выдавалася ў 1882 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, няпроста. Апрача гэтага, з-за правінцыйнай дурноты і залішняй боязі асобных чыноўнікаў маскоўскага начальства давялося ўжо надрукаванае знішчаць, кнігу дапрацоўваць і дадрукоўваць нанова. А тая правінцыйная дурнота і боязь выклікалася ўсяго толькі тым, што рускі пераклад М.Горкага купалаўскага верша быў у кнізе надрукаваны, як і іншыя пераклады, па алфавіце, а не на першым месцы.

Вам як журналісту, верагодна, захацелася сенсацыі. У гэтым імкненні да сенсацыі Вы махнулі рукой на галоўнае патрабаванне крытыкі (якое Вы, дарэчы, бераце пад увагу ў сваёй літаратуразнаўчай працы). А гэта – неабходнасць аб'ектыўнага і ўсебаковага аналізу твора, з улікам як адмоўных (калі яны ёсць), так і станоўчых яго момантаў. І па *адным* прыватным выпадку... закрэслілі *ўвесь* твор. Дакладней – увесь 1-ы том энцыклапедыі "Янка Купала", а разам з тым навялі цень і на наступныя яе два тамы, якія яшчэ павінны з'явіцца ў друку.

Вернемся, аднак, да майго артыкула. У 1986 годзе ўбачыў свет энцыклапедычны даведнік "Янка Купала", створаны яшчэ ў даперабудовачны перыяд. Кожнае выданне – дзіця свайго часу. І хоць і тады ў артыкуле для даведніка я пісаў пра гаротную кнігу "А хто там ідзе?" на мовах свету" (1982), аднак упамінанне пра яе выхад у свет было, па той жа чыноўніцкай дурноце, з артыкула выкраслена. Цяпер жа, у энцыклапедыі, з падрабязнага апісання той кнігі і пачынаецца мой артыкул. Не стану самацытавацца, паколькі правільнасць маіх слоў можна лёгка праверыць. Толькі пасля аповеду пра кнігу 1982 года выдання на 12-й старонцы я паведамляю: "У 1983 у аналагічным фармаце і мастац. афармленні выд-вам "Мастацкая літаратура" кніга была перавыдадзена (без указання, што гэта 2-е выд.) з некалькі ўдакладненым грыфам "Стагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы. 1882–1982" (Раней было: "Да стагоддзя..." – **В.Р.**). Крыху зменена і яе кампазіцыя: рус. пер. М.Горкага змешчаны ў ёй не па алфавіце, а адразу за бел. арыгіналам. Апрача гэтага, упершыню ў ёй апубл. яшчэ адзін, 82-і, пер. – на мову дары М.Шэраліева". У 1-м томе энцыклапедыі "Янка Купала" побач з маім артыкулам змешчана і вялікая каляровая ілюстрацыя супервокладкі кнігі з указаннем года яе выхаду ў свет – 1982.

Здаецца, усё ясна. Вы ж, Міхась, чамусьці заблытваеце чытачоў, пішучы: "Знаходжу патрэбны артыкул: першае выданне пабачыла свет у 1982-м, другое, дапоўненае і дапрацаванае, у 1983-м. А што за "дапаўненні" і "дапрацоўкі" мелі месца – ні слова". Як ні слова? А тое, што я цытаваў вышэй, хіба не расказ пра змены, дапрацоўкі?

Відавочна, Вы хацелі б, каб у артыкуле я расказаў, хто і як спыніў у 1982 годзе выхад кнігі ў свет, што "кнігу канфіскавалі з усіх бібліятэк, там былі знішчаны нават бібліяграфічныя карткі". Адным словам, каб намаляваў вобразную карціну "кніжнай гільяціны". Але ж гэта не энцыклапедычны – лаканічны, строга навуковы – стыль. Тым больш што ў стылі публіцыстычным я ўжо расказаў пра тую "гільяціну" ў сваёй кнізе "Мой Трыглаў" (2012), адпаведнае месца з якой Вы, дарэчы, цытуеце. Бібліяграфічную даведку пра кнігу я падаў у канцы энцыклапедычнага артыкула. Чытачы, думаю, калі захочуць, знойдуць, што трэба.

Што да персанальнай энцыклапедыі "Янка Купала" – гэта не паўтор таго даведачнага купалазнаўчага выдання 1986 года, якое, як Вы слушна адзначаеце, "з цэнзурных меркаванняў мела безліч недахопаў". Праўда, значэнне і таго, аднатомнага, выдання, названага сціпла энцыклапедычным *даведнікам,* таксама нельга прымяншаць. Для свайго часу яно было ўвогуле салідным зборам звестак пра асобу і творчасць Янкі Купалы. Але ж цяпер ствараецца не даведнік, а сапраўдная *энцыклапедыя*, ды яшчэ ў трох тамах. Розніца паміж гэтымі выданнямі агромністая. Як па колькасці, так і па якасці ўключанага ў іх матэрыялу. Прыблізна 40% артыкулаў у энцыклапедыі (у параўнанні з даведнікам) абсалютна новыя, напісаныя ў адпаведнасці з сучаснай фsvеталогіяй і метадалогіяй, астатнія ў той або іншай ступені дапрацаваныя ці ўвогуле перапрацаваныя. Так, у 1-м томе энцыклапедыі аналізуюцца вершы Янкі Купалы "Акоў паломаных жандар", "Ёсць жа яшчэ...", "Жыды", артыкулы "Адбудова Беларусі", "Беларускае войска", "Беларускі сцяг уваскрос" і інш., якія ў 1980-я гг. нельга было нават упамінаць. Імёнаслоўе папоўнілася прозвішчамі Ф.Аляхновіча, А.Аракчэевай, І.Багдановіч, Б.Белаказовіча, А.Гаруна, М.Драй-Хмары, Л.Дранько-Майсюка, М.Зэрава і іншых, назвамі розных устаноў, СМІ ("Беларуская школа ў Латвіі", "Беларускі сьвет", "Бацькаўшчына", "Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны ў Лондане", "Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва", "Віленская беларуская гімназія" і інш.), артыкуламі аналітычна-разгорнутымі ("Антычныя матывы ў творчасці Я.Купалы", "Беларуская літаратурная мова і Я.Купала", "Бібліяграфія твораў Я.Купалы" і інш.). Сённяшняя энцыклапедыя "Янка Купала" – гэта не паўтор даведніка "Янка Купала" трыццацігадовай даўнасці, ад яго яна адрозніваецца як неба ад зямлі.

Прабачце, Міхась, але крытыку Вашу 1-га тома энцыклапедыі "Янка Купала" я назваў бы аглабельнай. Як вядома, яе супрацьлегласць – крытыка хвалебная, алілуйная. Не хочучы быць крытыкам-алілуйшчыкам, скажу толькі, што, за тое-сёе, несумненна, укладальнікаў і аўтараў энцыклапедыі, якая рыхтавалася ў вялікай юбілейнай спешцы, можна папракнуць, пакрытыкаваць. Але ж станоўчага ў ёй намнога больш, чым адмоўнага! Таму хочацца павіншаваць і аўтараў, і выдаўцоў, усіх купалазнаўцаў і купалалюбаў з пачаткам выхаду ў свет трохтомнай энцыклапедыі "Янка Купала", "адной з візітовак незалежнай Беларусі", кажучы Вашымі словамі. І не бойцеся "даставаць кашалёк", як гэта было з Вамі на нядаўнім кніжным кірмашы – яна вартая таго, каб Вы яе купілі. І не толькі Вы.

**Вячаслаў Пятровіч РАГОЙША,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар БДУ.**

# Стыль праўдзе не перашкода

Паважаны Вячаслаў Пятровіч! На філфаку БДУ ў свой час мне пашчасціла быць Вашым вучнем. Наколькі памятаю, Вы нас вучылі не толькі літаратуразнаўству, але і праўдзівасці. Помнячы Вашу навуку, я стараюся не крывіць душой, калі пішу пра нейкія падзеі ці выданні. На маю думку, у першым томе энцыклапедыі "Янка Купала" свядома (выдавецтвам ці аўтарам) дапушчана скажэнне праўды. У артыкуле "А хто там ідзе?" на мовах свету" гаворыцца пра перавыданне анталогіі; выглядае так, быццам першае выданне ціхамірна разышлося, і дбайныя выдаўцы выпусцілі ў свет другое. Але ж гэта не так. Як было насамрэч, Вы праўдзіва расказалі ў сваёй кнізе "Мой Трыглаў". А вось расставіць усе кропкі над "і" ў энцыклапедыі Вам, паводле Вашых жа слоў, перашкодзіў "лаканічны, строга навуковы стыль выдання". Але ніякі стыль (хай сабе самы энцыклапедычны) не можа перашкодзіць праўдзе!

Мне прыкра, што Вы зразумелі мой тэкст як спробу "закрэсліць і зганьбіць" працу ўсяго калектыву "Беларускай энцыклапедыі". У мяне гэтага і ў думках не было. Што да "неабходнасці аб'ектыўна і ўсебакова прааналізаваць увесь твор", то абяцаю Вам зрабіць гэта на старонках "Народнай Волі" пасля таго, як выйдзе з друку апошні, трэці том. У "100 радках" я змог сказаць толькі пра адну істотную, на мой погляд, хібу энцыклапедыі "Янка Купала".

**З павагай – Ваш вучань**
**Міхась СКОБЛА.**

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

# Дарагая адукацыя

## ў сацыяльна арыентаванай дзяржаве

Як вядома, з 1 сакавіка некаторыя ВНУ краіны павысілі плату за навучанне, патлумачыўшы гэта тым, што ў краіне вырасла тарыфная стаўка 1-га разраду і адпаведна аплата працы прафесарска-выкладчыцкага складу, а таксама павялічыліся тарыфы на камунальныя паслугі.

Для студэнтаў-платнікаў новыя цэны выставілі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М.Танка. А вось у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце і Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце кошты навучання засталіся ранейшыя. Праўда, у медуніверсітэце яны і сёння немалыя, і, напрыклад, з 1 верасня мінулага года будучыя стаматолагі за год навучання плацяць 2827 рублёў.

| Факультэт | Кошт навучання да 1 сакавіка 2018 года для студэнтаў 1-га курса дзённай формы навучання | Кошт навучання з 1 сакавіка 2018 года для студэнтаў 1–3-га курсаў дзённай формы навучання |
|---|---|---|
| Механіка-матэматычны факультэт | 2250 | 2475 |
| Факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі | 2364 | 2600 |
| Факультэт радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій | 2250–2364 | 2475–2600 |
| Фізічны факультэт | 2250 | 2475 |
| Хімічны факультэт | 2250 | 2475 |
| Біялагічны факультэт | 2593 | 2852 |
| Геаграфічны факультэт | 2250–2364 | 2475–2600 |
| Эканамічны факультэт | 2765 | 3041 |
| Гістарычны факультэт | 2250–2364 | 2475–2600 |
| Факультэт філасофіі і сацыяльных навук | 2250–2593 | 2475–2852 |
| Інстытут журналістыкі | 2593–2708 | 2852–2978 |
| Філалагічны факультэт | 2039–2814 | 2242–3095 |
| Факультэт міжнародных адносін | 2765–2851 | 3041–3136 |
| Юрыдычны факультэт | 2593–2851 | 2852–3136 |
| Факультэт сацыякультурных камунікацый | 2039–2814 | 2242–3095 |

У лідарах па новых коштах на навучанне БДУ і БДУІР. Ва ўніверсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі ў мінулым годзе ў залежнасці ад факультэта год навучання для першакурснікаў каштаваў ад 820 да 2750, а з 1 сакавіка 2018 года – ужо ад 1250 да 3020 рублёў. Што тычыцца Белдзяржуніверсітэта, то там плата за навучанне на самых запатрабаваных і «дарагіх» факультэтах – юрыдычным і міжнародных адносін – вырасла на 285 рублёў і склала 3136 рублёў. А як змяніўся кошт навучання на ўсіх факультэтах БДУ, відаць з табліцы.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Прекрасная Мадлен

*На днях арт-директор Белорусского Свободного театра Наталья Коляда встретилась с известным в прошлом американским дипломатом и политическим деятелем, первой женщиной в должности государственного секретаря США Мадлен Олбрайт.*

– 19 лет назад Наташа по поручению американской стороны готовила первую встречу представителей белорусской демократической оппозиции с государственным секретарем США Мадлен Олбрайт, – *вспоминает драматург и основатель «Свободного театра»* **Николай Халезин**. – Встреча произошла в Варшаве, и на тот момент это было серьезным прорывом…

На Брюссельском форуме они встретились после 19-летнего перерыва, и Олбрайт сказала, что прекрасно помнит ту встречу и сожалеет, что мир так ничего и не смог сделать, чтобы ситуация в Беларуси кардинально изменилась…

*Кстати, 15 мая этого года Мадлен Олбрайт отпразднует свое 80-летие.*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**



***На фото: Наталья Коляда и Мадлен Олбрайт, март 2018 года.***

ВЕРДЫКТ

## Святаслава Барановіча асудзілі на тры гады калоніі

Нагадаем, што мужчыну абвінавацілі ў гвалтоўных дзеяннях у дачыненні да супрацоўніка праваахоўных органаў. Пасля "Маршу недармаедаў" вясной мінулага года Барановіч абараняў анархістаў, якіх затрымлівалі міліцыянеры ў цывільным.

Дарэчы, у 2011 годзе Святаслава Барановіча асудзілі на тры гады "хатняй хіміі" за ўдзел у "Плошчы-2010".

**Віктар ШПАК.**

КУЛУАРЫ

## Анжелика АГУРБАШ: «Детей нужно просто любить...»

*Дочь певицы Анжелики Агурбаш полгода назад открыла в Москве школу вокала. На днях состоялся первый отчетный концерт учеников Дарьи Ялинской. Поддержать дочку пришла мама.*



*«Я так счастлива, что мои дети выбирают свой путь и, несмотря ни на что, смело идут к своей мечте!* – говорит артистка. – *Я не раз говорила и повторю еще раз: детей нужно просто любить! Дашенька моя, я очень тобой горжусь! Ты потрясающая девочка!»*

Дарья Ялинская закончила музыкальную школу при консерватории в Минске – она училась по классу фортепиано. В Москве поступила в Государственный университет управления на продюсера в шоу-бизнесе. Работала на бэк-вокале у рэпера Тимати, брала уроки вокала в Лондоне. Училась на менеджера спортивной индустрии.

В прессе писали, что первое сольное выступление на публике у Дарьи Ялинской состоялось почти 10 лет назад – на презентации одного из альбомов Анжелики Агурбаш.

Правда, сегодня Дарья не выступает на сцене под своей фамилией – ее представляют на концертах просто как певицу Дарию. Чтобы не сравнивали с мамой.

**Вера ВИР.**

ГОСЦЬ РЭДАКЦЫІ

*Думаеце, будаваць паветраныя замкі могуць толькі летуценнікі? А вось і не! Мінчанка Яна Ласка – аэрадызайнер, яна ўжо тры гады штодня працуе з паветрам і яшчэ ні разу ад рэальнасці не адарвалася. Затое можа і замкі, і прынцэс, і цэлую краіну з паветраных шарыкаў зрабіць.*



## Яна ЛАСКА: «Паветраныя шары вяртаюць у дзяцінства»

**– У Беларусі аэрадызайн пачаў развівацца зусім нядаўна. Як вы асвойвалі сваю прафесію?**

– У XXI стагоддзі многія вучацца праз інтэрнэт, я – не выключэнне. У сеціве я глядзела майстар-класы, гадзінамі сядзела на спецыялізаваных форумах, шукала адпаведную літаратуру. А пасля вучылася на ўласных памылках.

Хаця, безумоўна, было б цудоўна, калі б у Беларусі з'явілася офлайн-школа па аэрадызайне. Зараз я працую ў гэтым напрамку.

**– Ведаю, вы часта ўдзельнічаеце ў спецыялізаваных конкурсах...**

– Гэта неад'емная частка маёй працы. Ці, калі казаць дакладней, своеасаблівая атэстацыя на прафпрыдатнасць. Паколькі менавіта на спаборніцтвах аэрадызайнеры робяць самыя эфектныя і складаныя фігуры. У звычайным жыцці такія заказваюць даволі рэдка, таму тут мы выкладваемся на поўную. Напрыклад, адзін з маіх самых значных твораў – вялізны сноўбардыст, якога я змагла "падлавіць", паказаўшы ў руху.

Акрамя новых навыкаў на конкурсах заўсёды можна абзавесціся карыснымі знаёмствамі са спецыялістамі нашай сферы. Гэта важна, паколькі аэрадызайнераў-прафесіяналаў не так і шмат.

**– Наколькі рэальна ў наш час пабудаваць бізнес "на паветры"?**

– Гэта такі ж бізнес, як і любы іншы. У яго трэба ўкладвацца і матэрыяльна, і ўласным майстэрствам і не лічыцца з часам. Галоўнае – працаваць і верыць у свае сілы.

**– Пасля таго як вы захапіліся аэрадызайнам, з вас не пачалі насміхацца, што вы "ўдарыліся ў дзяцінства"?**

– А хіба гэта дрэнна – хацяб на некаторы час вярнуцца ў той стан, калі ўсім нам было бясклапотна і весела? Да таго ж жанчынам проста неабходна рабіць нешта сваімі рукамі. Адны вяжуць, другія вышываюць крыжыкам, а я стала круціць шарыкі. Па-другое, родныя і сябры ведаюць: калі я нешта задумала, значыць, падыду да справы сур'ёзна і на паўшляху не кіну. Таму яны проста прытаіліся і пачалі чакаць, што з гэтага атрымаецца. Па-трэцяе, мае дзеці былі вельмі рады, што ў іх матулі з'явілася такое незвычайнае хобі.

**– Цікава, а ў вашым дзяцінстве былі паветраныя шары?**

– Безумоўна! Аднак менавіта з імі звязаны адзін з маіх самых сумных дзіцячых успамінаў. Аднойчы на нейкае свята мы з мамай пайшлі ў парк. Там мне, вядома, купілі марозіва і прыгожы паветраны шар, які я ўмудрылася выпусціць... Доўга пасля гэтага перажывала. Але з часам зразумела, што важна ўмець адпусціць тое, што табе дорага. Дзякуючы гэтаму эпізоду я, калі працую з дзецьмі, заўсёды ім добра прывязваю шары да рук і абавязкова кажу: "Нават калі ён зляціць ад цябе – нічога страшнага. Заўсёды можна купіць новы!"

**– У паветранага шара кароткі век. Вам не шкада сваіх работ?**

– Не. Цешу сябе тым, што іх галоўная місія – стварэнне добрага настрою і фарміраванне пазітыўных эмоцый. Свята не можа доўжыцца вечна, праўда? Іншае пытанне, што яго можна аформіць па-рознаму. Для дзетак гэта будзе яркая феерыя з каляровымі шарыкамі. На ўрачыстасці для дарослых падбіраем шары, напрыклад, у манахромнай гаме. Стылізацыя з фігурамі герояў мультфільмаў падыдзе для свята з казачнай тэматыкай. Адным словам, колькі нагод – столькі і настрояў. Цудоўна, што кожны раз гэта нешта новае і непаўторнае.

**– Яна, раскажыце, калі ласка, пра сучасныя тэндэнцыі ў аэрадызайне.**

– Яшчэ тры гады таму папулярнасцю карысталіся розныя фігуры, а сёння больш запатрабаваныя лаканічныя звязкі з шарыкаў, напоўненых геліем. Сапраўдны хіт продажу апошняга часу – шары-гіганты памерам 60–90 сантыметраў у дыяметры. Змянілася і палітра: сёння часцей заказваюць празрыстыя, срэбраныя і залацістыя шары з канфеці ўнутры, а таксама з надпісамі і малюнкамі.

ДАВЕДКА

Аэрадызайн – сучасны напрамак мастацкага афармлення прасторы з дапамогай паветраных шароў, дэталямі інтэр'ера могуць быць вялікія канструкцыі і скульптуры.

### З гісторыі аэрадызайну

На першы погляд, паветраны шар – вынаходка сучаснасці. Аэрадызайн як рамяство на Беларусі пачаў развівацца ўсяго 10–15 гадоў таму. Але насамрэч гісторыя мастацтва надзімання шароў вымяраецца тысячагоддзямі.

Аказваецца, паветраныя шары вынайшлі яшчэ старажытныя ацтэкі. Яны ўпрыгожвалі памяшканні вантробамі жывёл, якія надзімалі і размалёўвалі рознакаляровымі ўзорамі. Відовішча, напэўна, было не для слабанервовых. Тым не менш традыцыя ацтэкаў знайшла ўвасабленне ў старажытных рымлян. Менавіта яны пачалі афармляць залы паветранымі шарамі падчас святочных дзён.

У перыяд сярэднявечча "лятучыя ўпрыгажэнні" сталі неад'емным атрыбутам баляў і карнавалаў. Храбрыя рыцары і прыгожыя дамы круціліся сярод іх у танцах да світанку.

Надзімаць паветрам латэкс прыдумалі толькі ў XIX стагоддзі. Упершыню гэта зрабіў прафесар Каралеўскага Лонданскага ўніверсітэта Майкл Фарадэй, а папулярызавалі латэксныя шарыкі Томас Хінкок і Джордж Інграм. Гэтыя людзі і сталі ля вытокаў сучаснага аэрадызайну.

У Савецкім Саюзе паветраныя шары доўгі час былі дэфіцытам. Выпусціць з рук такую каштоўнасць па неасцярожнасці лічылася сапраўднай трагедыяй роўна да таго моманту, як у 1980 годзе ў неба падняўся сімвал Алімпійскіх гульняў – мядзведзяня Міша. Васьміметровая гумовая цацка, якая на развітанне махала гледачам лапай, і па сёння лічыцца адной з самых вядомых у свеце, а яе адлёт у зорнае маскоўскае неба – адным з самых запамінальных відовішчаў.

### Важна

Паветраныя шарыкі вырабляюць толькі некалькі краін у свеце. Сярод іх Бельгія, Італія, Калумбія, Мексіка, ЗША, Кітай. Выбіраючы афармленне для дзіцячага свята, будзьце уважлівы і не бярыце шарыкі з рэзкім пахам латэксу, а таксама тыя, на якіх шмат тальку. Памятайце, што самыя танныя з іх могуць выклікаць моцную алергічную рэакцыю!

**Ганна КУРАК.**

("Алеся".)

КРАЎДФАНДЫНГ

## Ігар Мельнікаў шукае грошы...

Вядомы беларускі гісторык Ігар Мельнікаў скончыў працу над новай унікальнай кнігай "Забыты корпус". Яна распавядае пра гісторыю знаходжання часцей Першага польскага корпусу, а потым і Вялікапольскай дывізіі на тэрыторыі Бабруйшчыны ў 1918, 1919–1920 гадах.

– *У Беларусі пакуль не выдана ніводнай навуковай ці навукова-публіцыстычнай кнігі, прысвечанай гісторыі Першага польскага корпусу ў Бабруйску,* – расказвае гісторык. – *Дзіўна, што настолькі значная старонка гісторыі не толькі горада на Бярэзіне, але і Беларусі амаль не вывучана ў айчыннай гістарыяграфіі. Больш за тое, значная колькасць не толькі жыхароў Бабруйска, але і ўсёй Беларусі не адрозніваюць перыяд знаходжання Першага польскага корпусу на тэрыторыі Бабруйшчыны ў 1918 годзе і акупацыю Бабруйшчыны польскімі войскамі ў 1919–1920 гадах. Між тым гэта зусім розныя гістарычныя сюжэты, хоць і маючыя ўскосныя сувязі.*

*Перыяд, калі гэтая вайсковая фармацыя знаходзілася на тэрыторыі нашай краіны, адзін з ключавых у беларускай гісторыі. Якую палітыку абрала камандаванне Першага польскага корпусу ў дачыненні да беларусаў і іх краіны? За што змагаліся польскія легіянеры ў 1918 годзе? Як ацэньвалі польскія камандзіры вартасць Бабруйскай крэпасці? Як БНР ставілася да войска Доўбар-Мусніцкага? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні ў кнізе "Забыты корпус".*

Новая кніга Ігара Мельнікава – гэта больш за 200 старонак унікальных фактаў вайсковай гісторыі Беларусі і Польшчы, а таксама каля 300 архіўных і сучасных здымкаў, большасць з якіх публікуюцца ў Беларусі ўпершыню.

Аднак сродкаў на выданне ўнікальнай працы ў гісторыка няма, таму на сайце talaka.org у рубрыцы "Праекты" распачаты збор сродкаў на гэты вельмі цікавы праект. Дарэчы, да неабыякавых да сваёй гісторыі беларусаў Ігар Мельнікаў звяртаецца другі раз. Менавіта людская салідарнасць дапамагла яму летась з выданнем кнігі "Адысея палешука". Тады за 40 дзён былі сабраны неабходныя 8000 рублёў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ

## Як здымалі «Дзікае паляванне караля Стаха»?

Сорак гадоў таму пачалася праца над адным з самых паспяховых беларускіх фільмаў «Дзікае паляванне караля Стаха». Яго здымаў вядомы рэжысёр Валерый Рубінчык і аператар Таццяна Логінава, адна з лепшых жанчын-аператараў у Савецкім Саюзе. Фільм назвалі першым савецкім містычным трылерам, яго здымкі праходзілі ў старадаўнім Падгарэцкім замку Львоўскай вобласці. Фільм атрымаў прыз журы на МКФ у Манрэалі ў 1980 годзе.



Караткевіч і Рубінчык за мантажом

На жаль, ужо сем гадоў, як няма з намі Валерыя Рубінчыка. Усе, хто працаваў з рэжысёрам, успамінаюць яго як чалавека не проста таленавітага, але і шырока адукаванага, які тонка адчуваў прыроду кіно. Аператар Таццяна Логінава заўсёды падкрэслівае, што з самага пачатку здымак фільма па рамане Караткевіча было зразумела, што Валерый Рубінчык мае намер стварыць свой свет. Праца над літаратурным сцэнарыем складвалася вельмі няпроста. Існуе нават легенда пра тое, што Караткевіч фільм не прыняў. Але ці так гэта?

«Для Рубінчыка любыя здымкі – гэта перш за ўсё глыбокая даследчая праца. Яго працоўны стол быў проста завалены альбомамі па жывапісе. Літаральна кожны кадр «Дзікага палявання» мы абгаворвалі па шмат разоў. Часам нават на самую невялікую ролю спрабаваліся пяць, сем акцёраў», – распавядае Таццяна Логінава.

28 сакавіка ў сталічнай культурнай прасторы "ОК16" адбудзецца сустрэча з Таццянай Логінавай. Яна падзеліцца ўспамінамі аб тым выдатным і далёкім часе. На творчым рахунку аператара Логінавай 45 мастацкіх фільмаў, у тым ліку такія вядомыя стужкі, як «Знак бяды», «Чорны замак Альшанскі», «Анастасія Слуцкая».

**Вікторыя ДРОЗД.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Почему болит спина?

*На боль в спине жалуются 85% людей. Как ее правильно лечить и чем можно навредить? Реально ли избавиться от боли раз и навсегда?*

Болит спина? Вы не одиноки! Данные социологических исследований показывают, что боль в спине – вторая после вирусных инфекций причина нетрудоспособности взрослого населения. Она рождается вместе с нами (по данным неонатологов, 80–90% детей при рождении получают травмы позвоночника) и рано или поздно настигает каждого. Есть мнение, что это расплата за прямохождение. Так как по мере роста человека нагрузка на «становой хребет» возрастает, уже имеющиеся неполадки позвоночника крепнут, а стрессы, переживания, тучность, перегрузки, малоподвижный образ жизни усугубляют имеющиеся проблемы – и боль в спине может возникнуть даже в раннем возрасте.

### Что там болит?

В подавляющем большинстве случаев (около 95%) боль связана с мышцами, связками и суставами. В народе это называется «потянуть спину». Эти боли неприятные, но неопасные и в большинстве случаев проходят самостоятельно за 2–3 дня.

В 3–4% случаев боли связаны с радикулопатией (радикулитом) – поражением спинального корешка. Повреждается он обычно грыжей. Боли исчезают, когда проходит отек, возникший из-за сдавливания.

1–2% – это боли в спине, вызванные травмами или воспалительными заболеваниями позвоночника, онкологическими процессами, заболеваниями сердечно-сосудистой системы или желудочно-кишечного тракта, при которых болевой синдром может переходить в спину. Это самый опасный вид болей в спине. Чтобы исключить подобные патологии, обязательно обратитесь к врачу.

### Медлить нельзя

Главный показатель того, что вам необходима врачебная помощь, – регулярность болей. Если вас скручивает время от времени – скорее всего, ничего страшного нет. Если боль малой или средней интенсивности преследует вас неотступно, медлить нельзя. Необходимо срочно обратиться к врачу, если боль сопровождается подъемом температуры или болевой синдром нарастает на фоне лечения.

### В домашних условиях

Самое эффективное средство – противовоспалительные пероральные препараты. Только не переусердствуйте – они безопасны лишь первое время.



При продолжительном приеме такие препараты могут вызвать язвы и кровотечения в слизистой желудка. Традиционное домашнее лечение – нестероидные мази – можно применять лишь в качестве дополнительной меры. Они безвредны, но малоэффективны. Облегчение дает и ношение корсета – фиксация разгружает позвоночник, снимает спазмы и ограничивает резкие движения. Только корсет должен быть обычный – эластичный, а не разогревающий.

Если лечение не дало эффекта в течение трех дней, следует обратиться к врачу, который сделает блокаду противовоспалительными инъекциями. За счет снятия спазмов и расслабления мышц боль уходит сразу и нередко навсегда.

### Запрещено!

**Баня и массаж** под строжайшим запретом. Они усиливают отек и боль.

**Обращаться к мануальным терапевтам по объявлениям в газете.** Мануальная терапия – это та область, где на каждого специалиста приходится три сотни шарлатанов. Если вам очень хочется найти хорошего врача, обращаться следует в сертифицированные клиники, где работают дипломированные специалисты.

Важно сразу правильно определить тактику лечения. Это должен сделать невролог или нейрохирург. Самостоятельно лечить спину опасно. 30% пациентов нейрохирургического отделения пробовали на себе домашние методы лечения и этим довели себя до больничной койки.

### Резать или нет?

Еще недавно человеку, которому ставили диагноз «грыжа», сразу же выдавали направление на операцию. Сегодня операцию выполняют лишь при наличии показаний:

* стойкие боли, не снимаемые никакими таблетками;

* расстройство тазовых функций – неполное опорожнение мочевого пузыря;

* слабость и онемение в ноге.

Все эти симптомы делают операцию неизбежной, ведь без нее пациент может стать инвалидом.

### Чем рискуем

Риск операции, из-за которого ее откладывают или отказываются вообще, многие пациенты считают сильно преувеличенным. В нейрохирургии есть технологии, позволяющие точно рассчитать эффективность операции и то, какие симптомы после нее исчезнут, а какие останутся.

Вероятность возобновления болей после операции не превышает 1–1,5%. Грыжи в других местах действительно могут появиться, но это не осложнение, а распространение заболевания, которое часто встречается у молодых недисциплинированных пациентов. Как только боль уходит, они возвращаются к привычному образу жизни: садятся за руль, возобновляют тренировки. А делать это категорически нельзя.

### Во всем виноват остеохондроз?

Остеохондроз – хроническое дегенеративно-дистрофическое изменение межпозвонкового пространства. Признаки остеохондроза есть у всех людей старше 25 лет. Избежать остеохондроза невозможно, но можно уберечь себя от его осложнений, которые и служат причиной болей в спине.

### Как избежать боли в спине

***Не допускайте резких вертикальных нагрузок на позвоночник***

Переноску тяжести лучше доверить грузчикам. Если вы все-таки решили самостоятельно поднять тяжести, то делайте это правильно.

Не хватайтесь резко за шкаф или холодильник. Присядьте на корточки с прямой спиной, обхватите груз так, чтобы точка опоры была рядом. Поднимайте предмет с прямой спиной с расправленными плечами. Смотрите не вниз, а перед собой.

Укрепляйте мышечный корсет – глубокие мышцы спины поддерживают позвоночник.

Женщинам во время беременности рекомендуется носить бандаж – это разгружает позвоночник.

Избегайте длительного фиксированного положения – это вызывает спазм в мышцах, из-за чего нарушается кровоснабжение позвоночника и возникает нехватка спинальной жидкости...

